I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Люты 2016

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

стар. 4



## «Нашая дзеўка» Святлана Алексіевіч

У Рэчыцы жанчына забіла вяскоўца драўляным бруском
стар. 3

На гомельскім Палессі скралі дзіця
стар. 5

У Рэчыцкім раёне сын да смерці збіў маці качаргой
стар. 6

# Ігар Случак:
## Абавязкова павінна быць беларускамоўная маркіроўка

***У спісе законаў, у якія будуць уносіцца змены ў 2016 годзе, пазначаны і закон “Аб абароне правоў спажыўцоў”. Пра гэта нядаўна паведаміў сайт Савета міністраў Рэспублікі Беларусь.***

Каардынатар грамадзянскай кампаніі “Справаводства па-беларуску” Ігар Случак успрыняў навіну з пэўнай надзеяй.

– Для мяне гэтыя змены цікавыя таму, што больш за год я перапісваюся з дэпутатамі, каб былі ўнесены змены ў закон, паводле якіх інфармацыя аб правах спажыўцоў павінна давацца на дзвух дзяржаўных мовах. І калі напачатку перапіскі гэтую ініцыятыву падтрымлівала можа два-тры чалавекі, то апошнім часам неяк дэпутаты пачалі мяняць сваю пазіцыю, і ўжо больш 15-ці дэпутатаў падтрымліваюць мае прапановы.




Інфармацыя на беларускіх таварах павінна давацца абавязкова па-беларуску і па-руску – на дзвух дзяржаўных мова, – лічыць Ігар Случак. Асабліва актуальна гэта стала апошнім часам, бо Беларусь, як чалец Мытнага саюза, абавязана маркіраваць свае тавары па-руску. І беларускія вытворцы часта ігнаруюць другую дзяржаўную мову краіны і парушаюць правы беларускамоўных грамадзянаў Беларусі.

*Беларускае Радыё Рацыя*

# Не ў ЗАГС, а ў турму: вынесены прысуд 27-гадоваму хлопцу, які збіраўся ажаніцца з цяжарнай 14-гадовай школьніцай

***Суд Светлагорскага раёна вынес прысуд па крымінальнай справе ў дачыненні да жыхара, ад якога зацяжарыла 14-гадовая школьніца. Яго прызналі вінаватым у палавых зносінах з асобай, якая не дасягнула 16-гадовага ўзросту.***

Мужчыну прызначылі пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тры гады. Бліжэйшыя некалькі гадоў ён правядзе ў папраўчай калоніі ва ўмовах ўзмоцненага рэжыму. Хоць першапачаткова будучы бацька збіраўся ажаніцца з дзяўчынай. Увогуле, мужчыну характарызуюць станоўча — не судзімы, не п'е, ёсць дом, машына, спраўна плаціць аліменты на дзіця ад першага шлюбу. Але гэта не пазбавіла яго ад адказнасці.

По інфармацыі tut.by, зусім па-іншаму характарызуюць сям’ю той школьніцы. Яе старэйшыя брат і сястра — у турме. Бацьку забілі яшчэ ў 2008 годзе. Маці большую частку свайго жыцця прысвяціла алкаголю.




Пару гадоў таму яе пазбаўлялі бацькоўскіх правоў, дачку тады афармлялі ў прытулак. Аднак потым жанчына закадзіравалася, навяла парадак у хаце і вярнула дачку. Праўда, пасля гэтага, са слоў суседзяў, жыццёвы ўклад сям'і мала змяніўся. Маці працягвала папіваць, а пакінутая без увагі дзяўчынка - жыць сваім жыццём.

Дзяўчынка павінна нарадзіць праз два месяцы. Яна непаўнагадовая, таму дзіця перададуць яе законнаму прадстаўніку, то бок яе маці. Улічваючы мінулае будучай бабулі, спецыялісты камісіі па справах непаўналетніх маюць намер больш пільна сачыць за сітуацыяй у сям'і.

Бацька ж пабачыць дзіця толькі праз тры гады.

*nn.by*

# Муж ахвяры і выканаўца забойства ў Рэчыцы прыгавораныя да 25 гадоў

***Гомельскі абласны суд на выязным пасяджэнні ў Рэчыцы 3 лютага абвясціў прыгавор у дачыненні да заказчыка і выканаўцы забойства маладой жанчыны ў Рэчыцы.***

Як паведаміла дзяржаўны абвінаваўца, прадстаўнік пракуратуры вобласці Вікторыя Яўсеенка, абвінавачваны ў арганізацыі забойства, муж ахвяры, прыгавораны да 25 гадоў пазбаўлення волі. Да такога ж тэрміна прыгавораны выканаўца забойства, толькі з канфіскацыяй маёмасці. Нагадаем, 21 студзеня дзяржаўнае абвінавачванне запытала для заказчыка і выканаўцы па 25 гадоў пазбаўлення волі (і канфіскацыю маёмасці — для выканаўцы злачынства).

Жыхар Рэчыцы 1969 года нараджэння абвінавачваўся ў арганізацыі забойства, а жыхар Рэчыцкага раёна 1965 года нараджэння непасрэдна здзейсніў злачынства.

34-гадовая маці дваіх дзяцей была забітая ў двары свайго прыватнага дома 16 красавіка 2015 года. Жанчына памерла ад вострай кровастраты, ёй былі нанесеныя 14 удараў нажом у вобласць шыі, грудной клеткі, унутраных органаў. У хуткім часе па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства быў затрыманы яе муж, а затым — выканаўца забойства.

Згодна з абвінавачаннем мужчына прыняў рашэнне забіць жонку ў 2014 годзе «з мэтай далейшага матэрыяльнага абагачэння і з мэтай завалодаць домам». (Чытайце: Жыхар Рэчыцы адмаўляе арганізацыю забойства жонкі за $5 тысяч, выканаўца — прызнаецца.)

Заказчык быў знаёмы з выканаўцам забойства каля 20 гадоў. Яны нават мелі сваяцкую сувязь: першы быў жанаты на сястры другога. Аднак пазней яны скасавалі шлюб, і мужчына ажаніўся другі раз. У 2014 годзе ён вырашыў забіць жонку і папрасіў былога сваяка дапамагчы яму ажыццявіць задуманае за 5 тыс. долараў.

Раніцай 16 красавіка выканаўца чакаў непадалёк ад дома ўмоўнага сігналу ад заказчыка: той, з`язджаючы на працу, святлом фар аўтамабіля даў знак. Абвінавачваны пачакаў, пакуль дачка жанчыны пойдзе ў школу, і пракраўся ў двор. Пастукаў у акно, жанчына выйшла, ён назваўся працаўніком газавай службы, а затым накінуўся з нажом.

Характэрна, што выканаўца забойства працуе ў рытуальнай канторы і пазней прывёз сваякам цела забітай ім жа жанчыны.

Прысуд не набыў законную моц і можа быць абскарджаны або апратэставаны.

*БелаПАН*

Спрабуючы прадаць старую балгарку, Сяргей сеў на 14 гадоў за гандаль людзьмі.

## У Рэчыцы жанчына забіла вяскоўца драўляным бруском

***У Рэчыцы жанчына забіла драўляным бруском 47-гадовага мужчыну.***

Як інфармуе прэс-служба МУС, увечары 16 студзеня яны распівалі алкагольныя напоі, а пасля ўзнікла сварка. Гаспадыня кватэры нанесла ўдар свайму госцю ў галаву, чэрапна-мазгавая траўма аказалася смяротнай.

Труп вяскоўца знайшлі ў кватэры раніцай у нядзелю. 53-гадовую жанчыну затрымалі. Высветлілася, што загінулы жыў у вёсцы Днепровец Рэчыцкага раёна, ён нідзе не працаваў.

*nn.by*

## У Рэчыцкім раёне невядомыя павесілі сабаку

***Паказальны і без перабольшання абуральны па сваёй жорсткасці выпадак адбыўся ў вёсцы Бронная Рэчыцкага раёна.***

Мясцовая жыхарка Юлія днём гуляла са сваімі сабакамі ў лесапаласе. Падчас прагулкі жывёлы раптам павялі сваю гаспадыню ўглыб лесапаласы, нібы нешта адчуўшы, і прывялі яе ў яр, дзе яна ўбачыла жудаснае відовішча - на дрэве была павешана цяжарная сабака.

Сляды, па якіх Юліных гадаванцы пайшлі далей, выходзілі на суседні пагорак, на якім размешчаны прыватныя дамы. Адна лінія слядоў ішла да двара дома, а іншая ад іх у бок дарогі ўздоўж жылога масіва.

Улічваючы, што вёска знаходзіцца за некалькі кіламетраў ад горада, хутчэй за ўсё павесіў сабаку нехта з мясцовых жыхароў.

*Паводле homel.greenbelarus.info*

# «Нашая дзеўка» Святлана Алексіевіч

***У дзень, калі Святлана Алексіевіч атрымлівала Нобэлеўскую прэмію па літаратуры, у палешукоў скралі свята. Мая маці расстроілася: «Гэта ж трэба, наша капаткевіцкая дзеўка выбілася ў людзі, а ніяк не пабачыш!»***

Маці вырашыла купіць раёнку, мо там штосьці напішуць. Але я ўжо схадзіў на сайт «Петрыкаўскіх навінаў» – Святланы Алексіевіч не існуе. Мы яе прыдумалі.

Пакуль беларускія фэйсбучнікі заўзята вырашаюць, ці беларуска Алексіевіч і ці тое яна сказала ў сваёй лекцыі, палешукі ў сваёй інфармацыйнай цішы збольшага вызначыліся – яна «наша дзеўка». У Петрыкаўскім раёне, дзе яна скончыла школу, – «наша капаткевіцкая дзеўка». У Нароўлі, дзе пісьменніца працавала ў «Прыпяцкай праўдзе», – «наша нараўлянская».

Але во дзіва – былы супрацоўнік рэдакцыі атрымаў Нобэлеўскую прэмію, а дарагая рэдакцыя не напісала ні слова, акрамя ўзгадавання ейнага імя ў раздзеле пра гісторыю газеты, які вісіць на сайце з тых сівых часоў, калі ў Нароўлі з'явіўся першы інтэрнэт. Гэта маразм, які называецца аднолькава ва ўсіх рэгіянальных газетах – «Вы самі ўсё панімаяцца».

*Сёння ў нашай хаце свята. Не будзе.*

Згодна з беларускай традыцыяй, да сёння ў «Прыпяцкай праўдзе» мусіў выйсці дзясятак інтэрв'ю з людзьмі, якія на ўласныя вочы бачылі нобэлеўскую лаўрэатку, дакраналіся да краёчку ейнага пінжака і сядзелі ў ейным рэдакцыйным крэсле. Абавязкова трэба было змясціць фотаздымак «Святлана Алексіевіч і ветэраны» і кранальны расповед старэнькай настаўніцы, якая навучыла нобэлеўскую лаўрэатку грамаце. А сёння ўвечары на пляцоўцы перад кулінарыяй «Палессе» мусіла адбыцца імпрэза з цётачкамі ў фабрычных нацыянальных строях, з райвыканкамаўскімі чырванашчокімі мужыкамі, з піражкамі і самагонам.




Гэта называецца рэгіянальным святам. Але ў нараўлянцаў і яго скралі. Яны мо пабачаць па «нацыянальным» тэлебачанні некалькі кадраў пра Алексіевіч са Швецыі, і годзе. А свята не будзе. Алексіевіч – гэта вам не хакей.

*Няможна біць сваіх*

Сустракаю ля крамы дзеда Ганушу. Думаю, пацікаўлюся дзеля эксперыменту, ці ведае дзед пра Алексіевіч.

– Гэта ж наша калінкавіцкая дзеўка!

Чаму б і не? Героі «Чарнобыльскай малітвы» жылі і ў Калінкавіцкім раёне. Пісьменніца сустракалася з імі, пісала пра іх. Як мясцовы краязнаўца Лякін ездзіць па раёне і піша пра маіх землякоў. Чым ён адрозніваецца ад Алексіевіч? Хіба тым, што без нобэля.

Не так даўно пра дзеда Ганушу і іншых палескіх п'якаў я напісаў артыкул. Учора ў тэлефоннай размове пісьменніца Марыя Вайцяшонак, сяброўка Святланы Алексіевіч, выказала мне нязгоду: «Андрусь, няможна пра сваіх такое пісаць. Трэба падыйсці да іх, паразмаўляць, даведацца, чаму яны такім сталі, чым ім дапамагчы».

Сёння я пагаджуся з Марыяй Антонаўнай. Гэтая «нашасць» – нармальная з'ява ў вёсцы. Крывы, сівы – але свой, наш. І яго няможна ганьбіць на ўвесь свет. Прыйсці да яго ў хату і сказаць, які ён паскуда – можна. А выносіць смецце з вёскі – няможна.

*Нашасць – вашасць*

Аднак філасофская тэорыя «нашасці» ў Беларусі існуе толькі на рэгіянальным узроўні. На ўсю краіну яна не распаўсюджваецца. Пакуль палешукі збольшага прызналі Алексіевіч «нашай дзеўкай», па той бок

МКАДа пытанне, чыя яна, толькі вырашаецца.

Я б сказаў, што Беларусь – гэта сукупнасць некалькіх ідэйных вёсак. У кожнай з іх ёсць свае стандартныя наборы прыкметаў для вызначэння нашыхвашых. Не так адказаў на пытанне – не наш, з чужой вёскі. З Алексіевіч усё складана, бо ейны набор адказаў на пытанні не супадае цалкам ні з водным наборам. А з іншага боку, хочацца ж мець аднавяскоўку – нобэлеўскую лаўрэатку!

Таму хто прымае яе, а хто і катэгарычна адмаўляе ёй у «нашасці». Па інтэрнэце блукаюць расчараванні – лекцыя не пра нас, не для нас, не пра маю сям'ю, не пра маю вёску, не панашаму. І нос не той, і не з той нагі пайшла. Якая ж яна нашая?

Мы так і жывем у рэгіянальнай «нашасці-вашасці», сярод сваіх і чужых. Працэс аб'яднання беларусаў у агульнанацыянальную «нашасць» не скончаны. Таму на спартовых мерапрыемствах лунаюць розныя беларускія сцягі. Таму калі беларуска атрымоўвае Нобэлеўскую прэмію, не ўсе гэтаму радуюцца.

І дзяржаўныя вертыкалі дзейнічаюць «дзеравенскімі» метадамі: прасоўваць сваіх і замоўчваць навалач з суседняй вёскі. Не, перамагаць маем права толькі мы, у нас манаполія на лідарства!

*Шклоўскі пан нашую дзеўку пакрыўдзіў*

Мая маці сёння не пабачыць, як капаткевіцкай дзеўцы дадуць нобэля. Яна сказала, што будзе сачыць за навінамі. Напэўна, некалькі кадраў усётакі ёй дазволяць угледзець. Але гэта будзе не свята. Бо да свята рыхтуюцца загадзя, яго даюць не рэпартажам, а вялікім цыклам радасці, суперажывання і гонару. Тое, што аб'ядноўвае людзей з розных вёсак у адну нацыю.

Я не магу казаць за ўсю Беларусь, але на маім Палессі дзяржаўныя структуры гэтым маразматычным ігнараваннем нобэлеўскай лаўрэаткі сёння прайгралі. Нейкі шклоўскі пан нашую петрыкаўскую, мазырскую, нараўлянскую, калінкавіцкую дзеўку пакрыўдзіў.

Не, прудкаўцы не ідуць на Менск з віламі, але недзе ў глыбіні недаверлівай палескай душы шкловец стаў трохі менш нашым. Няхай бульбу садзіць і траву косіць, як прудкаўскія мужыкі, але нашых дзевак крыўдзіць няможна.

*Андрусь Горват*

# На гомельскім Палессі скралі дзіця

***У Акцябрскім раёне Гомельскай вобласці мужчына спыніўся, каб падабраць жанчыну з дзіцем, якія галасавалі на трасе. Ён узяў малога, а маці пакінуў на дарозе.***

Паводле інфармацыі БелаПАН, выпадак адбыўся 12 студзеня. Жанчына з сынам лавілі папутку. Калі перад імі спыніўся «Форд», жанчына пасадзіла 8-гадовага хлопчыка ў аўтамабіль на пярэдняе сядзенне і пайшла да багажніка, каб паставіць сумкі. У гэты час кіроўца рвануў з месца, пакінуўшы маці на трасе.

Неўзабаве кіроўцу затрымалі. Высветлілася, што ён ехаў за стырном машыны, якую нядаўна скраў. Сам ён — з Бабруйска. Спачатку мужчына прыехаў у пасёлак Рабкор на дызель-цягніку. Накіраваўся са станцыі ў пасёлак, але па дарозе ўбачыў аўтамабіль «Форд», які стаяў з працуючым рухавіком.

Аўтамабіль быў незачыненым, і зламыснік наўпрост сеў і паехаў на ім у напрамку вёскі Ражанаў. Гаспадар аўто, выявіўшы прапажу, неадкладна паведаміў у міліцыю і кінуўся наўздагон са знаёмым на яго аўтамабілі. Праз некалькі хвілін да пераследу падключыўся аўтамабіль ДПС ДАІ з уключанымі маячкамі.

Убачыўшы гэта, зламыснік, які паспеў за гэты час скрасці яшчэ і малога, спыніўся і быў затрыманы. Дзіця не пацярпела.

У той жа дзень у дачыненні да падазраванага была заведзена справа за выкраданне транспартнага сродку, а таксама прызначаныя розныя экспертызы, у тым ліку псіхолага-псіхіятрычная.

*nn.by*

# Аўтобус з пасажырамі перакуліўся ў Гомельскай вобласці на трасе М10

***Пасажыры і кіроўца пакінулі аўтобус самастойна, пацярпелых няма.***

Кіроўца аўтобуса паведаміў у МНС, што яго транспартны сродак перакуліўся на трасе М-10.

Рэйсавы аўтобус ехаў з Гомеля ў Лельчыцы з 8 пасажырамі ў салоне, і ў раёне Малых Аўцюкоў у Калінкавіцкім раёне зляцеў у кювет і перакуліўся.

— Пасажыры і кіроўца пакінулі аўтобус самастойна, пацярпелых няма. У выніку ДТЗ аўтобус атрымаў нязначныя механічныя пашкоджанні, — распавяла kp.by прэс-сакратар Гомельскага абласнога ўпраўлення МНС Ксенія Шынгірэй.

*Павел Міцкевіч*

Сцюардэса сутыкнулася з цяжкім выбарам: альбо пусціць п'янага дэбашыра на борт, альбо ляцець без другога пілота..

## 8-гадовы хлопчык не саступіў месца п’янаму ў аўтобусе Гомель - Цагельня — той разлаваўся і парэзаў нажом твар яго маці

***У судзе Навабеліцкага раёна Гомеля пачаўся суд над мужчынам, які нападпітку знявечыў жанчыну ў аўтобусе «Гомель — Цагельня».***

Інцыдэнт адбыўся ў кастрычніку мінулага года. У аўтобусе 56-гадовы мужчына, які быў моцна п’яны, пачаў чапляцца да 8-гадовага хлопчыка, патрабуючы, каб той саступіў яму месца. За хлопчыка ўступілася маці — і атрымала ўдар у твар. Аднак гэтага п’янаму пасажыру не хапіла, ён дастаў складны нож і параніў твар жанчыны. У гэты момант на прыпынку адчыніліся дзверы аўтобуса, і мужчына выбег з салона. Неўзабаве ён быў затрыманы міліцыяй і арыштаваны.

Свае дзеянні падазраваны тлумачыў вялікай колькасцю выпітага - маўляў, гарэлка ва ўсім вінаватая. Абвінавачанаму інкрымінуецца пагроза забойствам і наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання з хуліганскіх меркаванняў. Мужчына можа атрымаць да 10 гадоў пазбаўлення волі.

*nn.by*

## У Рэчыцкім раёне сын да смерці збіў маці качаргой

***Злачынства адбылося ў вёсцы Каравацічы.***

Увечары мужчына 1969 года нараджэння, пасварыўшыся са сваёй 71-гадовай маці, збіў яе качаргой. Праз дзень жанчына была дастаўлена ў бальніцу з чэрапна-мазгавой траўмай.

Жанчына памерла 4 лютага. Падазраваны ў злачынстве затрыманы.

*mvd.gov.by*

## У Мазыры прадпрымальнік забіў 17-гадовага сына і 9-гадовую дачку, а затым выкінуўся з балкона

***Упраўленнем Следчага камітэта па Гомельскай вобласці распачата крымінальная справа па факце забойства дваіх дзяцей у Мазырскім раёне.***

У дзяжурную частку Мазырскага райаддзела ўнутраных спраў паступіла тэлефанаванне ад 38-гадовага мужчыны, які паведаміў пра забойства сваіх дзяцей, паведамляе прэс-служба Следчага камітэта.

На месца здарэння выехала следча-аператыўная група. У кватэры былі знойдзены целы 9-гадовай дзяўчынкі і яе 17-гадовага брата з прыкметамі гвалтоўнай смерці.

Мужчына пасля тэлефанавання ў міліцыю зрабіў спробу суіцыду, выскачыўшы з балкона. З пашкоджаннямі рознай ступені цяжкасці ён дастаўлены ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы.

Як паведамляе «Полесье своими глазами», мужчына сваіх дзяцей задушыў, а спрабаваў выкінуцца з 4-га паверха.

Па факце трагедыі Мазырскі раённы аддзел Следчага камітэта завёў крымінальную справу па ч.2 арт. 139 Крымінальнага кодэкса («Забойства»). Згодна з санкцыяй артыкула яму пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 8 да 25 гадоў, або пажыццёвае зняволенне, або смяротнае пакаранне.

***

Як паведаміла БелТА афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава, мужчына знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

*sk.gov.by*









# Трылер у Гомелі:

## жонка ледзь не зарэзала мужа за тое, што той не так купіў селядца

***У судзе Цэнтральнага раёна Гомеля сёння пачалося слуханне крымінальнай справы ў дачыненні да 66-гадовай жанчыны, якая пырнула нажом мужа за тое, што ён купіў за яе грошы селядзец.***

Пра выпадак паведаміла прэс-сакратар Гомельскага абласнога суда Вольга Барсукова.

З матэрыялаў справы вядома, што сямейная пара, якая раней у крымінальных справах заўважаная не была, вяла паасобны бюджэт

Муж быў на пенсіі, але яшчэ і падпрацоўваў, перад інцыдэнтам меўся атрымаць заробак. Але перад гэтым захацеў паспытаць селядзца. Пазычыўшы грошай у жонкі, ён адправіўся на рынак. Жонка дала мужу Br200 тыс. З умовай, што той патраціць іх толькі, калі яго заробак яшчэ на картку не пералічаны. Даўшы згоду, пенсіянер адправіўся на рынак, а жонка назірала за ім з балкона.

Мужчына мінуў банкамат. Дадому вярнуўся з рыбай, на пытанне жонкі, ці атрымаў заробак, даў адмоўны адказ.

Гэта абурыла жанчыну, і яна пачала выгаворваць мужу. Сварка пенсіянераў скончылася нетрывіяльна: жанчына не разлічыла і пырнула мужа ў бок кухонным нажом. Мужчына адразу адправіўся ў міліцыю, адкуль быў шпіталізаваны. У цяперашні час яго стан праблемаў не выклікае.




Жанчыне прад'яўленае абвінавачванне па ч.1 арт.147 (наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання) КК Беларусі. Сёння падчас судовага пасяджэння былі дапытаныя пацярпелы і абвінавачаная. Пенсіянерка сваю віну цалкам прызнае. У бліжэйшы час таксама плануецца дапытаць сведак па гэтай крымінальнай справе.

*БелТА*

# Работніца банка ў Жлобіне за некалькі гадоў пакрысе накрала са сховішча на 20 тыс. даляраў

***Жлобінскі раённы аддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу ў дачыненні да загадчыцы кладоўкі каштоўнасцей адной з банкаўскіх устаноў Жлобіна. Жыхарка райцэнтра падазраецца ва ўчыненні злачынства па ч. 4 арт. 210 КК (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, учынены ў асабліва буйным памеры).***

Падставай для распачынання крымінальнай справы сталі матэрыялы праверкі, праведзенай супрацоўнікамі УБЭЗ УУС Гомельскага аблвыканкама і АБЭЗ Жлобінскага РАУС.

Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава, падазроная 1976 года нараджэння з 2011 года па лістапад 2015 года ўчыніла крадзеж наяўных грашовых сродкаў банка з памяшкання кладоўкі на агульную суму 15.200 долараў і 4.000 еўра.

Праводзяцца неадкладныя следчыя дзеянні, накіраваныя на ўстанаўленне ўсіх акалічнасцяў здарэння, а таксама прычын і ўмоў, якія садзейнічалі ўчыненню злачынства, паведамляе СК. Робяцца захады да кампенсавання прычыненага ўрону.

Канчатковая прававая ацэнка здарэнню будзе дадзена па выніках расследавання, адзначылі ў ведамстве.

*БелаПАН*

Замовіў у рэстарацыі грэцкую салату. З'еў. Адзінагалосна прагаласаваў за тое, каб не плаціць і сыйшоў.

# Каханне на ўсё жыццё. ТОП-5 він ад якіх не стогне гаманец. “ЭДЭМ”

Эдэм – гэта лепшы сябар самотнага чалавека, здольны узнесці яго на нябёсы і іншыя вяршыні асалоды за нейкіх ~ 37 бульбін за 0.7 і ~ 44 за 1 літр. П’ецца неверагодна лёгка і нязмушана, нібы чаёк або сок, а высякае раптоўна і бязлітасна. Аднак гэта не прыносіць дыскамфорт, а толькі набліжае Вас да сакрамантаў прыроды, сакрэтаў асалоды і Бог ведае чаго яшчэ.

Працяг ў суседнім Гумне...

*Rachok Genious*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Люты 2016»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя “Гомельскія Навінкі 2015”

Надрукавана на паперовай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA